# Ніва

„NIWA" — TYGODNIK BIAŁORUSKI W POLSCE

ГОД II № 1 (45) БЕЛАСТОК, 6 СТУДЗЕНЯ 1957 г. Цана 60 гр.


## Пры першай картцы каляндара...

Заўсёды з вялікім хваляваннем сустракаем Новы год. Зіхаціць чырванню першая картка каляндара так неяк жывей, радасней і весялей. Зрэшты, як заўсёды, штосьці маладое... А пад ёю — пад гэтай карткай, ляжыць яшчэ столькі іншых...

...Што яны нам прынясуць? У якіх умовах палітычнага, грамадскага, а нават асабістага жыцця мы будзем іх зрываць? І тады чалавеку на душы неяк сумна робіцца...

Праўда, што ёсць чым хвалявацца... Год у гісторыі — гэта толькі дроб секунды, а ў нашым жыцці — год з'яўляецца досыць вялікім перыядам часу.

Зусім у іншых умовах пачыналі мы 1956 год, чым закончылі... Шмат чаго змянілася, шмат чаго паўстала новага, лепшага. Працоўны робіцца гаспадаром сваёй фабрыкі, земляроб і рамеснік можа свабодна выбраць сабе дарогу і гаспадарчы напрамак.

Усё гэта можна выказаць адным сказам — праўда перамагла!

Прагледзьце ўсе навагоднія фельетоны мінулых гадоў. Усе яны маюць у сабе вельмі многа аптымізму, у які чалавек зусім не верыў.

Цяпер думкі нашы сталіся больш рэальнымі, тым больш што на гэты час прыпадаюць выбары. Не такія, як калісь былі — выбары для выбараў. Цяпер ведаем, што людзі, якіх выбярэм апраўдаюць нашае давер'е, выбярэм людзей сапраўды такіх, якіх хочам. Што будуць стаяць за паляпшэнне жыцця вёсак і гарадоў.

Будзем мець пачуццё, што наш голас у гэтых выбарах сапраўды штосьці значыць. Сапраўды трэба цешыцца, а не сумаваць.

Цешыцца надзеяй, што наэўна будзе лепш. І гэты аптымізм не з'яўляецца фальшывым.

Як-жа тады, браткі, не выпіць у такую радасную хвіліну! За Новы год. Каб ён усе нашы намеры здзейсніў. Каб мы яго прапускалі з пашанай хаця-бы так, як гэтага — мінулага.

Не можам мець вялікага жалю да гэтага старэча! Дык ён хоць пад канец — але аднак абдумаўся і... паправіўся!

Ну што-ж, лепш пазней, ніж ніколі.

Віп'ем і за гэтага старычыну, які ўвёў нас на добры шлях.

Да трэцяй чаркі — запрашаю людзей шматлікіх нацый, людзей цэлага свету!

Як я разцалаваўся-б з Вамі, як хацеў-бы жыць у спакоі і добрабыце.

Я думаю, што кожны чалавек так хоча.

І тут, браткі мае, маленькая заўвага!

Не Новы год, не гісторыя нам усё гэта зробіць, а толькі мы самі — ніхто за нас.

Тады ў новым годзе трэба болей закасаць рукавы і папрацаваць не шкадуючы сілы.

Дык толькі працай, упартай працай, здабываюцца вялікія, здавалася-б, недасягальныя мэты.

Мы самі працай створым гісторыю такую, што не будзем за яе сароміцца.

Ды давайце-ж вып'ем за гэту вялікую справу. Хай жыве мір, добрабыт і праўда!

А гэта значыць — сацыялізм.

І. ВЕРАС.



## НАШЫЯ ПАЖАДАННІ

Галоўнаму Праўленню Таварыства жадаем 200 тысяч членаў.

* * *

Пісьманосцам жадаем у новым годзе атрымаць верталёты, каб хутчэй маглі дастаўляць «Ніву» падпісчыкам.

* * *

Асветным установам жадаем не толькі шчыра размаўляць аб беларускіх школах, але і шчыра заняцца імі.

* * *

Таварышу Гаёсу — дырэктару «РСВ Праса» у Беластоку, пад якога «апекай» маем шчасце знаходзіцца, жадаем, каб атрымаў нашай рэдакцыі хоць пару коней, калі не можа дабіцца машыны.

* * *

Рэдакцыі рускага часопісу «Звено» жадаем каб калі пішуць аб белавежскім хоры, не забывалі дапісваць чатыры літары «БЕЛА», перад «рускі», тады не будзе памылкі ў назве.

* * *

Таварышу Туронку — старшыні Праўлення Аддзела Таварыства ў Варшаве жадаем, каб як гур стаяў за беларускую справу ў Варшаве і як найбольш сабраў вакол сябе белавежскіх зуброў і меў «зуброўку» госцям з Беластока, — інакш, могуць не прыехаць.

* * *

Кандыдатам на пасоў у Сейм жадаем пазнаёміцца з выбаршчыкамі і іх справамі яшчэ да выбараў.

* * *

Бюракратам жадаем поспехаў у барацьбе з бюракратыяй.

* * *

Хуліганам па сто палак — калі не папраўляцца.

* * *

Усім іншым — шмат шчасця ў новым 1957 годзе.

ПЯТРУСЬ БРОУКА.

## НОВАГОДНІЯ ПАЖАДАННІ

Ідзе жыццё. Мінае час.
Яго няспынны ход.
І вось з'яўляецца да нас
Ізноўку Новы год.

За стол сядаем мы сям'ёй,
Каб госця прывітаць.
Чаго-ж хвілінаю такой
Яму нам пажадаць?

Каб не было вайны нідзе,
Каб шчасна ўсе жылі,
Каб мір жаданы для людзей
Быў скрозь — на ўсёй зямлі.

Каб кожны нават не прысніў
Ні бомбаў, ні гармат,
Каб дым адзін у небе плыў —
Ад стрэх шчаслівых хат.

Каб слёз пакутлівых не знаць,
Каб жыць нам весялей,
Каб толькі чуць нам першы плач —
Народжаных дзяцей.

# Тыдзень праз фотааб'ектыў

### ЗАКЛЮЧНАЯ НАВАГОДНЯЯ ЗАЯВА I САКРАТАРА ЦК ПЗПР У. ГАМУЛКІ.

*Жадаю ўсім грамадзянам, каб у палітыцы суправаджаючымі заўсёды ім былі розум і развага, у пакананні жыццёвых труднасцяў, — гарт і вытрываласць, у штодзённым жыцці — працавітасць і душэўны спакой, што зложыцца на суму асабістога шчасця кожнага чалавека добрай волі і прынясе ўсебаковае развіццё і шчаслівую будучыню нашай радзімы — Народнай Польшчы.*

*Варшава, 29 снежня 1956 года.*

### НОВАГОДНІЯ ПАЖАДАННІ У ДЗЯРЖАЎНАЙ РАДЗЕ.



*На здымку: у кнजку ў Дзяржаўнай радзе новагоднія пажаданні ўпісвае рэктар праф. Турскі ад імя Варшаўскага Універсітэта. Побач — прадстаўнік Варшаўскага політэхнікума — рэктар праф. др. Арашкевіч.*
*Фота ЦАФ. — Дамбравецкі.*

### ВЫБАРЧЫ ПЛАКАТ.



*На здымку: выбарчы плакат паводле праекта графіка Губерта Гільсхэр. Фота — ЦАФ.*

### СОВЕЦКАЕ ЗБОЖЖА ДЛЯ ПОЛЬШЧЫ.



*У некалькіх мясцовасцях у СССР адбываецца загрузка пшаніцы для Польшчы.*
*На здымку: адпраўленне збожжа на пункце скупу ў Раслаўлі. Фота — ЦАФ.*

### ІТАЛІЯ.



*На здымку: Генуа — новы камплекс будынкаў на Санта Вердэ. Фота ЦАФ*

### СОВЕЦКАЯ АРКТЫЧНАЯ ЭКСПЕДЫЦЫЯ.



*На здымку: на дрэйфуючай станцыі «Поўночны полюс 6» совецкія вучоныя пераплылі ўжо 1.800 км. Фото — ЦАФ.*

### ЗІМА У ЗАКАПАНЫМ.



### ШЧАСЛІВАГА НОВАГА ГОДА!



# У перадвыбарчай джунглі...

Трапіў мне ў рукі другі нумар штотыднёвіка «Свят» з 14 студзеня 1928 года. Зацікавіў мяне там артыкул «У перадвыбарчай джунглі», між іншым таму, што ў ім многа напісана пра беларускую справу.

Я тады быў невялікім хлапчуком. Памятаю толькі, што кожная вёска была чамусьці «панумаравана». У нашай хаце было па некалькі розных нумараў. Мама прыносіла, не ведаю адкуль, здаецца шасцёркі, хрышчоны, бацька і сусед Міхась прыносілі 43 ція, парабкі з маёнтку прыносілі яшчэ іншыя нумары. Але ўсе платы і хаты былі заклеяны «адзінкамі», або зноў такімі лозунгамі: «Хцэш мець злота пэлно скшынкэ — втэды глосуй на едынкэ».

* * *

Піліп Пятровіч налажыў акуляры і пачаў чытаць падану мною пажоўклую газету.

«Складаныя адносіны паміж нацыямі, вялікая колькасць груп і палітычных партый у нашай дзяржаве, яшчэ больш зацямняюць сітуацыю. Трэба прабівацца праз сапраўдную джунглю парасткаў і палітычнага разгалінавання. У гэтай джунглі можна загінуць».

— Ой, сапраўды можна было тады загінуць, — кажа Піліп Пятровіч, — а колькі з нас і загінула...

...«Сярод беларусаў адносіны яшчэ больш за-[illegible]ны; прадугледжваецца наступныя спіскі: блок меншасцей, да якога ўвойдзе Земляробскі саюз, паноў Ярэміча і Рагулі, Хрэсціянска - дэмакратычна - каталіцка - беларуская — ксяндза Станкевіча і Хрэсціянска - дэмакратычна - праваслаўная былога сенатара Багдановіча, які не прызнае «аўтакефаліі», польскай царквы і праклятьі мітрапалітам».

— Вось вы пра гэта хіба мала ведаеце? — звяртаецца да мяне Піліп Пятровіч. — Бачыце, Ярэміч і Рагуля на першым месцы. А ведаеце хто яны?

З самага тону пытання, я ўжо зрабіў вывад, што гэтыя паны, Ярэміч і Рагуля, хіба нічога добрага.

— Гэта была кулацкая арганізацыя, якая заўсёды ішла на руку панам і заўсёды супраць нас, заўсёды супраць сялянска - працоўнага руху. Вось, браток ты мой, хто быў тады на першым плане ў беларускай справе — сказаў Піліп Пятровіч.

— А вось напрыклад ксёндз Адам Станкевіч, гэта дадатны персанаж, не мірыўся з панствам і вышэй усяго ставіў беларускую справу. А Багдановіч? Багдановіч быў беларускім сенатарам, не прызнаваў раздзелу польскай царквы ад Маскоўскай царкоўнай улады. Ну што-ж Пілсудскі даў аднаму патрыярху 100.000 зл. і ён зрабіў гэты раздзел.

... «Комуністычнае «Беларуска - працоўна - сялянскае аб'еднанне» складаецца з Комуністычнай партыі Заходняй Беларусі і з Беларускай сялянскай партыі (левіца былой Грамады)».

— Там былі паслы: Гаўрылік, Дварчанін, Валынец, Крынчык і іншыя. Усё гэта комуністы, біліся за нашыя справы. Потым сядзелі ў турме ў Гродна, у Вронках, потым прамянялі іх з Советамі на ксяндзоў і потым усіх іх бер'яўшчына «разлажыла». Нікога з іх няма... Шкада людзей! Ну, але што-ж рабіць. Чытайма далей:

...«Група царкоўна - беларуская пана Коўша, асуджанага за прыналежнасць да Грамады».

— Мандатаў яна не атрымала і прылучылася да «Беларускага - сялянска - працоўнага аб'еднання». — сказаў Піліп Пятровіч.

...«Група соцыялістаў рэволюцыянераў пана Мамонькі».

— Гэта была прасанацыйная «разбіяцкая» арганізацыя, якая жыла на кошт «дэфензывы». Не мелі яны прызнання ў народзе... «Беларуская Нацыянальная Рада пад прэзесурай др. Паўлюкевіча канцэнтруючая ўмеркаваныя элементы і якая стаіць на грунце польскай дзяржаўнасці».

... «Беларуска - радыкальна - нацыянальная партыя пад кіраўніцтвам палянафіля пана Умястоўскага, якая ўвойдзе на час выбараў да Дзяржаўнага аб'еднання.

Такая раздробленасць прадугледжваецца ў беларусаў. Але сярод украінцаў даходзіць яна да вяршыні».

— Ведаеце што, я пазваню да таварыша Кузьміна, увечар мы сустрэнемся і паразмаўляем на гэткія тэмы. Добра?

Я ахвотна згадзіўся.

І. ВЕРАС.

# СУПОЛЬНЫЯ ТРАДЫЦЫІ

Як ёсць Польшча доўга і шырока ад Буга аж да Нысы і Одры, ад Балтыцкага мора да Карпатаў, вясковы люд старадаўнім звычаем напярэдадні каляд спажывае традыцыйныя патравы: кісель, куццю з макавым малаком і з макам асалоджаным цукрам або мёдам. Ядуць кісель і куццю мазуры і куявякі, ядуць курпе і шлёнзакі. І запэўна ніхто з іх не ведае, што кісель і куцця, гэта традыцыйныя патравы беларусаў, патравы ў падрыхтоўцы якіх выспецыялізаваны беларускія жанчыны і дзяўчаты.

Вось гэты кісель падрыхтоўваецца старасла-вянскім звычаем з аўсяной мукі, якую вараць, потым цэдзяць і якая потым застыгае так моцна, што можна яе нажом краіць. Астыўшы кісель спажываецца з асалоджаным макавым малаком. Яшчэ больш традыцыйнай патравай ёсць куцця.

Куцця, гэта густая каша, зроблена з ячменя. Яе падрыхтоўваецца з макам і мёдам або з цукрам. Далейшымі патравамі з'яўляюцца клюскі з макам, капуста і боршч з грыбамі.

Гэта ўсё традыцыйныя патравы, так як у палякаў, так і ў беларусаў Даводзяць яны не толькі адвечнага згоднага суседскага сужыцця, але і супольнай традыцыі і ўзаімнага ўплыву на сябе. Смела можна сказаць, што традыцыйная куцця і кісель узялі свой пачатак на Беларусі, або найлепш тут захаваліся з усіх даўніх славянскіх патраў.

А цяпер глянем на калядныя і святочныя абычаі і традыцыі. І зноў бачым міма розніцы ў датах юліянскага і грэгарыянскага каляндара, гэтыя самыя абычаі і традыцыі. Таксама, як у палякаў, так і ў беларусаў, вераць усе, што дзяўчына, якая будзе круціць мак у «вярцёшцы» напярэдадні каляд, напэўна ў будучым годзе выйдзе замуж. Як там, так і тут вераць, што ў калядную ноч быдла размаўляе з сабою «людскімі» языкамі.

На самыя каляды таксама ёсць супольныя вераванні і абычаі. Урачыстае святкаванне, падобныя забавы і традыцыі. Дзеці таксама, як на Беларусі, так і ў цэлай Польшчы стараюцца ў гэты дзень быць паслухмянымі, каб не заслужыць на кару і не атрымоўваць яе потым дзень у дзень. Ёсць падобныя формы вітання, складання сабе пажаданняў, даванне падарункаў. Таксама ў Польшчы, як і на Беларусі моладзь мае падобныя забавы. Вось перапранаюцца за мядзведзяў, коз ваўкоў і ходзяць па вёсцы, ад хаты да хаты, віншуюць усіх і забаўляюць смешнымі скокамі і танцамі. Ёсць гэта несумненна астатак старaславянскіх традыцый, калі гэта ў дзень Новага года моладзь водзіць па вёсцы, дзеля вялікай радасці і падзіву, злапаных мядзведзяў, ваўкоў і г. д. Таксама і жывёліна гаспадара так як на Беларусі, так і ў Польшчы атрымоўвае на каляды больш або нават удвая корму. Дрэвы ў садзе акутваецца ў гэтым дню саломай, каб не памерзлі і ў будучым годзе далі больш фруктаў.

Вось так калядныя і навагоднія абычаі беларускага і польскага насельніцтва вяжуць ад вякоў гэтыя народы супольнай традыцыяй і з'яўляюцца доказам згоднага ўплыву на сябе, уплыву, з якога паўстала дружба і братэрства.

ЯКУБ АНТАНЮК

# КАЛЯДА

*(Працяг са стар. 4.)*

выпілі. Ганулька таксама дакранулася губкамі да свае чаркі (гэтага вымагае традыцыя) і скрывіўшыся адставіла яе на бок.

Цяпер можна было есць усё, хто што жадае.

У хаце запанавала цішыня. Толькі стук лыжак і чаўканне пераж оўванай ежы гаварылі аб тым, што ў хаце не пуста.

Дзядзька Сымон як каршун накінуўся на смачную калядную куццю. Ох, і любіў яе дзядзька! Аднак стараўся есць у меру. Ён ужо перакананаўся, што смачная куцця вельмі не любіць жыць згодна з яго споўчаным жыватом. Некалькі год таму, калі дзядзька папусціў сабе лейцы і ўпёр амаль поўную верцяху вось такой-жа смачнай каляднай куцці, дык праз усе каляды качаўся з жыватом, нават у госці з жонкай да кума не мог выйсці.

Навука, як гавораць, у лес не ідзе. Зараз ужо дзядзька Сымон такога глупства не ўпора.

Праз нейкі час багата застаўлены стол пачаў апаражняцца. Памалу таксама апаражнялася і пляшка гарэлкі ў меру чаго дзядзька Сымон рабіўся штораз весялейшы, а ў канцы пачаў заводзіць калядныя песні.

Вось ён зацягнуў грубым баском... «Я умом хадзіла ў горад Вефліем...». Да яго далучыўся танчэйшы голас жонкі, а пасля тоненькі Ганульчын і калядная сумная песня гучна палілася ў Сымонавай хаці.

Праз усёй час гэтага вечара асаблівым аб'ектам зацікаўленасці маленькай Ганулькі была прыгожая ёлачка. Гэтая ёлачка не абыякавая. За ёю сам дзядзька Сымон адмыслова ездзіў у Белавежскую пушчу.

Нямала Ганулька з мамкай далажылі старанняў каб яе ўпрыгожыць. Чаго-ж не было на Ганульчынай ёлачцы. Па галінках скакалі доўгавухія зайчыкі. Вось адзін з іх баязліва схаваўся за чырвоны мухамор перад выскаліўшым на яго свае зубы ваўчыскам. Тонканогія далікатныя сінічкі быццам ад холаду дрыжаць на галінках і час-ад-часу дзюбаюць каляровыя, вельмі-ж ужо смакавітыя цукеркі.

Вакол ёлачку аплятаюць рознаколерныя ланцужкі, а ўся яна быццам у снягу ў белай ваце, а на вярху яе красуецца прыгожая звязда.

І вось Ганулька дачакалася таго ўрачыстага а так хвалюючага яе моманту, калі мамка запаліла на ёлачцы свечкі і пагасіла лямпу.

І зноў сумныя калядныя песні паліліся ў Сымонавай хаце.

У гэтую ноч Ганулька доўга не магла заснуць. У яе вачах усё блішчэлі свечкі на ёлачцы, а ў вушах гучэлі калядныя песні. А калі заснула, прысніўся ёй зубаты ваўчыска і спалоханы, хаваючыйся за мухаморам зайчык. Ох, і шкадавала Ганулька гэтага беднага зайчыка.

В. БАРШЧЭЎСКІ

## Батлейка

Пазбіраліся ля ёлкі
Навагоднія анёлкі
Дружна акружылі дрэўка,
Выступаюць у прыпеўках.

БРАХУН.

Прачытаў я VIII Пленум,
Там няма-ж ніякай змены —
Толькі тых людзей змяняюць
Што палітыкі не знаюць!

ХУЛІГАН.

Разумею, што аднова
Азначае ў ва ўсём:
Калі не дам рады словам,
Дык параджу кулаком!

ПРАДПРЫЕМЦА.

Не быў у царкве дзвенядзелі,
Рабіў новую мадэль,
Бочка, рурка ды бачок,
Каб быў добры «першачок».

БЮРАКРАТ.

Які-ж я вам «культ асобы»,
Паглядзіце ў папер.
Палітычныя спасобы
Зусім зменяны цяпер!

ПАСОЛ.

А я думаю — наўрад
Ці пяройдзе мой мандат,
Колькі год паслом я быў
І ніц нікому не зрабіў...

РАДНЫ.

У нашай радзе шмат бязладдзя,
А што-ж я магу пачаць?
Старшынёвы цёткі, дзядзькі
Не даюць мне выступаць.

«РЭПАТРЫЯНТ».

Болей у горад не паеду,
Буду ў вёсцы пражываць,
Памагу сваёму дзеду
Усе аблогі паараць.

МЛЫНАР.

Прыдзе, шэпне адно слоўка,
У кішэнь садзіць паўлітроўку.
Самы першы сыпле ў кош...
Каб так было, як найдоўж?

ЗАГАДЧЫК КЛУБА.

Даражэнькі, няма жартаў,
Нам патрэбны ў клубе карты.
Літр гарэлкі, штось на зуб
Тады будзе поўны клуб.

ПРАРОК.

Верце мне, добрыя людзі
Што мае быць, тое будзе.

* * *

З велізарным пучком лоз
Уваходзіць дзед Мароз
— На табе і табе анёлку
І ўбірайцеся з-пад ёлкі!!!

А. ОМІЛЬЯНОВІЧ

(9)




Раніцай падыйшлі да ўскраіны лесу, непадалёк Арэшкава, пачалі назіраць рух транспартаў. Чорт нанёс у гэты час селяніна, які збіраў у лесе галлё. Падыйшоў я да селяніна, пачаў распытваць і прасіць каб прынёс партызанам, калі можа, трохі хлеба. Абяцаў, што яшчэ раз прыдзе за галлём і разам хлеб прынясе.

Знаходзячыся ў партызанах я навучыўся асцярожнасці. Быццам-бы прадчуваючы нешта дрэннае, падпоўз я да дарогі і пачаў назіраць за вяртаючымся ў лес селянінам. Раптам бачу, з кустоў выходзіць да яго двух немцаў, селянін схіліўся да іх, аб нечым пагаварыў і паказаў рукой у нашым кірунку. Цяпер ужо не было сумнення, што ён нас здрадзіў.

Я хутка вярнуўся да сваіх, пачалі аддаляцца ўглыб лесу. Раптам пасыпаліся на нас стрэлы. Мы кінуліся ў другі бок. І там сустрэлі нас стрэламі.

Валя Койла і Міша, — парашутыст з Мінска загінулі ад фашысцкіх куль.

Быў толькі адзін ратунак — як найхутчэй прабіцца ўглыб пушчы.

Моўчкі вярталіся ў атрад. Ведалі, што нас здрадзіў гітлераўскі сабака з Арэшкава. Даклад камандзіру брыгады быў кароткі.

Сабраўся партызанскі суд. Селяніна — правакатара і гітлераўскага шпіка трэба было неадкладна расстраляць. Ноччу, у Арэшкава пайшлі Валодзя Койла і Колька — прысуд быў выканан. Фашыстоўскім сабакай аказаўся Келенік Хамацюк. Аказалася, што Хамацюк прыйшоў з лесу дамоў зараз-жа паведаміў немцаў, якія знаходзіліся ў вёсцы. Фашысты хутка акружылі гэту частку лесу, дзе мы знаходзіліся і нанеслі нам сур'ёзныя страты.

— Нямецкія шпікі і пасля яшчэ неаднаразова наносілі нам сур'ёзныя страты — працягваў свой расказ Саевіч.

Набліжаўся ўсходні фронт. Узмацнялася актыўнасць нашых атрадаў. З самалётаў скідалі нам амуніцыю і іншы патрэбны абсталюнак.

У пушчы мелі мы пасадачную пляцоўку. Радысты ўдакладнялі дзень і гадзіну скіду. Звычайна ішла туды група партызан, размяшчала дазоры. Калі чулася гук самалёта, распальвалі геаметрычна размешчаныя вогнішчы, самалёт апускаўся ніжэй і на фоне цёмнага неба паказваліся парасоны парашутаў. У мяшках знаходзілі мы ўсе патрэбныя нам рэчы. Тады міны мы ўжо не ўзрывалі шнуркамі. Атрымлівалі аўтаматычныя ўзрывальнікі званыя ў нас «жабкамі».

Наш атрад, таксама як і іншыя, безупынна павялічваўся. У нашым атрадзе, які ў той час налічваў ужо 200 чалавек, апроч беларусаў і палякаў было многа жаўнераў і афіцэраў Савецкай Арміі.

Фашыстоўскі тэрор узмацняўся з кожным днём. Шмат старэйшых жанчын і дзяцей уцякала ад праследванняў у пушчу. Для гэтакіх уцякачоў сарганізавалі мы спецыяльны, так сказаць, штацкі лагер. У гэтым лагеры знаходзілася і мая жонка Кацярына, якой удалося ўцячы ад фашыстаў. Фашысты ў знак адпомсты разабралі маю хату і знішчылі ўсе сельскагаспадарчыя забудаванні.

Жанчыны знаходзячыся ў гэтым лагеры мылі нам бялізну, шылі, пяклі хлеб — лагер ахоўвала спецыяльная партызанская група.

Увесну 1944 года фашысты некалькі разоў прабавалі разграміць нашыя атрады.

Было гэта бадай у канцы красавіка 1944 г. Наш атрад жыў нармальным жыццём. Лекцыі, абучэнні, разведка. Аднойчы адзін з дазораў размешчаны ў аддаленай лясной прасецы, паведаміў, што ў нашым напрамку ідзе двух немцаў, без зброі, і разам з імі нейкая дзяўчына і хлопец.

Штаб загадаў затрымаць іх і даставіць у лагер. Пачаліся допыты: Хто яны, адкуль і г. д. Немцы казалі, што яны з'яўляюцца дэзерцірамі нямецкай арміі, што хаваліся ў розных вёсках, а апошнім часам у Гайнаўцы. Баючыся, што іх можа выкрыць гестапа ўцяклі ў пушчу з намерам перахоўвацца да канца вайны, або паступіць у партызанскі атрад і дапамагчы граміць фашыстаў.



*У гэтым месцы 7 мая 1944 года пахавана расстраляных гітлераўцамі чатырох радыстаў - пар ызанаў — кажа Г. Саевіч...*

*Фото — А. О.*

Дзяўчына, якая ішла разам з імі заяўляла, што паходзіць з Гайнаўкі і ў яе хаваліся гэтыя немцы, што яна закахалася ў адным з іх і баючыся арышту разам з імі ўцякла ў пушчу жадаючы дзяліць лёс свайго нарачонага.

Хлопец аб прозвішчы Юры Ліпчынскі з Гайнаўкі, — самы малады з іх, расказваў, што ад арышту ўцёк у пушчу, хаваўся некалькі дзён і прыпадкова сустрэў гэтых немцаў - дэзерціраў, якія ішлі разам з дзяўчынай. Пайшоў разам з імі і таксама хацеў або перахоўвацца ў пушчы або змагацца супроць фашыстаў у партызанскім атрадзе.

Вайна і зацятая барацьба супроць зненавіджанага ворага навучылі нас пільнасці. Справа гэтых уцякачоў здалася падазронай.

Камандванне доўга думала, што з імі зрабіць. Адправіць іх значыла-б — здрадзіць месцазнаходжанне партызанскага лагера. За шмат паспелі ўжо ўбачыць! Затрымаць? А мо' гэта насланы шпіёны?

Камандзір брыгады Мартынаў загадаў затрымаць іх у атрадзе і размясціць іх па розных партызанскіх групах, каб не маглі з сабой сустракацца. У барацьбе сваімі ўчынкамі павінны былі паказаць, што сапраўды жадаюць змагацца супроць фашыстаў.

Працяг будзе.




# Новагодняе

*Быў вечар. На вясковай вуліцы ў цемры чуліся дзявочы смех, звонкія галасы, недзе па замерзлай зямлі было чуваць крокі. Даўно закончыўся шумны дзень працы. Навакол цішыня, і таму здавалася, што гукі штораз бліжэй нас і ўсё галаснейшыя. Да Новага года засталося чатыры гадзіны з хвосцікам і дзяўчаты спяшалі на вечарынку да сваіх сяброўак, з верай ў новагоднюю варажбу. Кожная дзяўчына варожыць па-свойму, адны ліюць воск на ваду, другія паляць паперу перад свянцонай сцяной, іншыя варожаць перад люстэркам, але кожная дзяўчына носіць у сваім дзявочым сэрцы жаданне выбраць найлепшага хлопца.*

*У кватэры старшыні ГС Скібы праз падвойныя рамы вакон не чуваць было дзявочых галасоў. Скіба сядзеў ля стала ўжо падхмелены. Перад ім стаяла пачатая бутэлька гарэлкі. Пачуўшы смагу прыпомніў аб піве ў сенцах, выйшаў на хвіліну, а калі вярнуўся, убачыў здзіўлены, што гарэлка, якая стаяла на стале дзесьці знікла. Скіба як чалавек забабонны тройчы плюнуў і прамармытаў: — Святы, святы... не іначай, як нячыстая сіла гарэлку забрала. Але закускі не кранула.*

*— Чаго ты плюеш на падлогу — п'яная морда! Гарэлку я забрала, працверазіў яго голас жонкі з кухні. Сварыцца з жонкай Скіба пабаяўся. Ён вырашыў на хвіліну забегчы да кума. Зняў з гвоздзя поўкажушак, насунуў на вушы шапку і выйшаў з хаты. На дварэ быццам плашчом ахутала яго густая цемра. Скарочваючы дарогу Скіба ішоў цераз агароды да кума, незаўважваючы таго, што ідзе ў процілеглы бок. Ля самай хаты наткнуўся на плот і здзівіўся, што кум так хутка паспеў агарадзіцца.*

*Пералез праз плот націснуў клямку ў дзвярах і ўвайшоў у сені. Калі ў цемры мацаў рукамі намагаючыся знайсці дзверы, пачуў з хаты чыйсці грубы голас.*

*— Хутчэй бы чэрці забралі гэтага Скібу. Завёў такія парадкі ў ГС-е, што трэба некалькі дзён хадзіць пакуль здасі кантрактаванае цяля, а будаўнічых матэрыялаў без магарычу ні за што не дастанеш. Распасся Скіба на нашай бядзе...*

*Скіба ціхенька высунуўся на двор і накіраваўся да хаты прыёмшчыка Сівалапа. Калі дабраўся да асветленага акна і зазірнуў у яго — ўзрадаваўся. Убачыў у пакоі гасцей, а праз тонкае аконнае шкло пачуў быццам з бочкі голас Сівалапа.*

*— Хітрая штука гэты Скіба, дзе ні павернецца — шукае заробку. Як перадаваў у павет свіней — то накарміў іх кукурузнай мукой з пяском і выйшла трыццаць кілограмаў больш вагі.*

*Соль і цукар загадаў у магазіне ГС прыхаваць і перад святам знаёмым па запісках даваў...*

*— Скіба прыгнуўшыся адыйшоў ад акна і паплёўся дамоў. Ля дзвярэй сваёй хаты прысеў, зняў шапку і прамармытаў: — Які д'ябал іх усіх паблытаў, дэмакратамі парабіліся, языкі параспускалі. У гэту хвіліну пачуў ён над вухам пасопванне д'ябла і адчуў са страхам ліпкі яго дотык на сваёй шчацэ, запах серы і дотык махнатай шэрсці да рукі. У адчыненых дзвярах паказаўся сноп святла. Скіба ўбачыў побач сябе сабаку і пачуў грозны голас жонкі: — Чаго акаянны хаваешся?! Лезь да хаты, кум чакае.*

*Скіба ўвайшоў і пачуў, што леташняй самаўпэўненасці ўжо ў яго не будзе.*

Дзядзька Лявонь

## Матывіроўка



1951 ГОД.

«..Вы патрабуеце трыццаць чарапіц, мяшок цэменту і кілограм гвоздзяў?!

Даражэнькі! — гэта-ж немагчыма. Мы-ж зараз будуем агромны камбінат у Новай Гуце, а ён-жа больш патрэбны народнай гаспадарцы чым вашая хата..»



1953 ГОД.

«...Ці Вы думалі калі даражэнькі аб магутных будоўлях соцыялізма ў нашай краіне?! Ці чулі Вы калі небудзь аб Тыхах, Жэрані, Явожне, Замброве, Фастах?!...»



1955 ГОД.

«...Вы толькі падумайце, якога-ж велізарнага развіцця прамысловасці дасцігнула наша краіна. Мы-ж занялі 5-тае месца ў Еўропе! Перагналі Італію, а Францыя таксама ўжо не за гарамі. Дасцігнем! Ці-ж гэта Вас не цешыць?!...»



1957 ГОД.

«..Які-жа з Вас гаспадар, калі Вы да такога стану дапусцілі свой дом?! Аб гэтым трэба было некалькі год таму паклапаціцца даражэнькі!

Апрацавана з «Ойлен Шпігель».

## ГАРЭЛІЦА

Борзда. Нар. мел. зборн. А. Грыневіча. Гарм. К. Галкоўскага.



Ой ты, мая гарэліца,
Ой ты, весялушка!
Цераз ўсю мяне ночку
Мучыла сукрушка.

Няўжо-ж то мне было лёгка
Цераз усю ночку,
Калі вiдзеў усё ў восьне
Парожную бочку?

Судзі-ж Божа, даждаць сьвята,
Тады пагуляю,
Загойкаю: гаю, гаю!
Ды запаклікаю.

Слава-ж Богу, што дождаўся,
Вось і папіваю,
Загойкаю: гаю, гаю!
Ды запаклікаю.

А як прыду да хатанькі,
Дык жонцы — вяроўка;
А мне з панам разьбірацца
Ня будзе так лоўка.

Гуга! гуга! загойкаю,
Ды запаклікаю,
Судзі-ж, Божа, даждаць сьвята,
Тады пагуляю.

## ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

**Хто перад Каляды добра даглядае, той перад Вялікдзень за хвост не падымае.**

**Калядкі, добрыя сьвяткі, наеўся, напіўся, ды-й на лапаткі.**

**Па Калядах у ночы трэшчыць, а ў дзень плюшчыць.**

## АГАФОН АБРОТКА НА НОВЫ ГОД



*Бліснула агнямі ёлка,*
*Заспявалі дзеці сполкай*
*Разам дружна і вясёла*
*Новы год устрэчае школа*



*Ідзе з мяшком святы Мікола.*
*У кажуху доўгаполым.*
*Вусы, доўга барада.*
*— Усім падаркі дзеткам дам.*



*І смяецца дзед салодка,*
*Пытаецца, — дзе-ж Абротка?*
*Клічуць дзеці: — Агафон!*
*А куды-ж падзеўся ён?*



*Здарылася тут бяда,*
*Упала ў дзеда барада,*
*Упала, абарвала вусы...*
*Паўглядайцесь Беларусы!*

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

Орган Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Адрас рэдакцыі гор. Беласток вул. Маніфесту Ліпцовага 25, тэл. 25-89. Умовы падпіскі на 1 месяц 2 зл. 40 гр., 3 месяцы — 7 зл. 80 гр., 6 месяцаў — 15 зл. 60 гр., на год — 31 зл. 20 гр. Падпіску прымаюць усе паштовыя ўстановы, пісьманосцы. Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 10 161 w Białymstoku. Zlecenie na wysyłkę wydawnictwa zagranicę przyjmuje Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" — Warszawa, ul. Wilcza 46 Konto PKO 1-6-100024 — Cena prenumeraty zagranicę: kwartalnie 10,15, półrocznie 20,30, rocznie 40,60 Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку. Т-13